ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Год выдання 38-ы
№ 45 (2405)
10 чэрвеня 1969 г. АЎТОРАК
Цана 4 кап.

**5 чэрвеня ў Маскве ў Вялікім Крамлёўскім палацы адкрылася міжнародная Нарада камуністычных і рабочых партый.**

**У Нарадзе прымаюць удзел прадстаўнікі 75 камуністычных і рабочых партый.**

**Нарада абмяркоўвае наступныя пытанні: «Задачы барацьбы супраць імперыялізму на сучасным этапе і адзінства дзеянняў камуністычных і рабочых партый, усіх антыімперыялістычных сіл» і «Аб дакуменце ў сувязі са 100-годдзем з дня нараджэння У. І. Леніна».**

**7 чэрвеня на ранішнім пасяджэнні міжнароднай Нарады камуністычных і рабочых партый з вялікай прамовай выступіў кіраўнік дэлегацыі Камуністычнай партыі Савецкага Саюза Генеральны сакратар ЦК КПСС таварыш Л. І. Брэжнеў.**

## МІЖНАРОДНАЯ НАРАДА КАМУНІСТЫЧНЫХ І РАБОЧЫХ ПАРТЫЙ



МАСКВА. Георгіеўская зала Вялікага Крамлёўскага палаца. Міжнародная Нарада камуністычных і рабочых партый.

Фота А. УСЦІНАВА і Т. МЕЛЬНІКА.

# ЗА ЎМАЦАВАННЕ ЗГУРТАВАНАСЦІ КАМУНІСТАЎ, ЗА НОВЫ ЎЗДЫМ АНТЫІМПЕРЫЯЛІСТЫЧНАЙ БАРАЦЬБЫ

## ВЫСТУПЛЕННЕ КІРАЎНІКА ДЭЛЕГАЦЫІ КПСС ГЕНЕРАЛЬНАГА САКРАТАРА ЦК КПСС ТАВАРЫША Л. І. БРЭЖНЕВА НА МІЖНАРОДНАЙ НАРАДЗЕ КАМУНІСТЫЧНЫХ І РАБОЧЫХ ПАРТЫЙ У МАСКВЕ 7 ЧЭРВЕНЯ 1969 ГОДА

Дарагія таварышы!

Асноўнае пытанне парадку дня нашай Нарады — задачы барацьбы супраць імперыялізму на сучасным этапе і адзінства дзеянняў камуністычных і рабочых партый, усіх антыімперыялістычных сіл. З нашага пункту гледжання, у праекце Асноўнага дакумента ясна сфармулявана сутнасць праблем, якія ахопліваюцца гэтым парадкам дня. ЦК КПСС лічыць, што праект, роўна як і іншыя дакументы, якія нам трэба будзе разгледзець, адпавядае сучасным задачам камуністычнага руху.

Мы ўпэўнены, таварышы, што наша Нарада, на якой прадстаўлена большасць камуністычных партый свету, адыграе вялікую ролю ў актывізацыі дзеянняў барацьбітоў супраць імперыялізму. Яна будзе садзейнічаць згуртаванню ўсяго сусветнага фронту сіл, што выступаюць за мір, дэмакратыю, нацыянальную незалежнасць і сацыялізм.

Разам з тым мы перакананы, што работа Нарады, сумесная барацьба за дасягненне мэт, якія яна намеціць, будуць садзейнічаць і пераадоленню цяжкасцей, што ўзніклі ў камуністычным руху, умацаванню яго згуртаванасці на прынцыповай марксісцка-ленінскай аснове.

Усё гэта яшчэ вышэй узніме аўтарытэт і ўплыў камуністаў сярод шырокіх мас працоўных і ўсіх прагрэсіўных сіл свету.

## I.

## СУЧАСНАЯ МІЖНАРОДНАЯ АБСТАНОЎКА І ЗАДАЧЫ АНТЫІМПЕРЫЯЛІСТЫЧНАЙ БАРАЦЬБЫ

Таварышы! З таго часу, калі прадстаўнікі кампартый усіх кантынентаў апошні раз сабіраліся, каб разам намеціць далейшыя шляхі сваёй рэвалюцыйнай барацьбы, прайшло амаль дзевяць гадоў. Гэта быў вельмі важны, насычаны падзеямі перыяд. Нам, камуністам, ён прынёс нямала поспехаў, адкрыў новыя магчымасці для дасягнення вялікіх мэт нашага руху. Разам з тым гэты перыяд прынёс і сур'ёзныя праблемы, і ўскладненні.

Мы з вялікай увагай выслухалі прамовы таварышаў, што тут выступілі, якія закранулі рад важных пытанняў антыімперыялістычнай барацьбы. Нам даручана Цэнтральным Камітэтам КПСС выкласці тут, у святле асноўнай задачы, якой прысвечана Нарада, пункт гледжання нашай партыі па некаторых праблемах міжнароднага развіцця за апошнія гады.

Усе мы аднадушныя ў тым, што **імперыялізм як грамадская сістэма быў і застаецца галоўнай перашкодай на шляху гістарычна немінучага руху чалавецтва да перамогі свабоды, міру і дэмакратыі.**

Народы прад'яўляюць імперыялізму суровы рахунак. Па яго віне застаюцца нявырашанымі карэнныя праблемы, якія востра стаяць перад чалавецтвам і якія яно магло б паспяхова вырашыць ужо сёння. Імперыялізм быў і застаецца галоўным праціўнікам не толькі камуністычнага руху, але і ўсіх барацьбітоў за правы працоўных, за збавенне народаў ад сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту.

Нам, камуністам, ясныя сацыяльная сутнасць імперыялізму і яго месца ў гісторыі. Аднак для вызначэння канкрэтнай праграмы антыімперыялістычнай барацьбы неабходна не толькі правільнае разуменне сутнасці імперыялізму, яго прыроды. Неабходна таксама ўважлівае вывучэнне новых з'яў, глыбінных працэсаў, якія разгортваюцца ў свеце капіталу. Ленінская тэорыя імперыялізму дае ключ да разумення і тых канкрэтных асаблівасцей, якімі вызначаецца імперыялізм на сучасным этапе свайго развіцця.

Што ж можна сказаць аб асаблівасцях імперыялізму за апошняе дзесяцігоддзе? У чым яго сіла і слабасць у нашы дні і галоўнае — чым ён небяспечны для народаў?

З усё большай сілай уплываюць на ўнутраныя працэсы і палітыку імперыялізму рост магутнасці сацыялізма, ліквідацыя каланіяльных рэжымаў, націск рабочага руху. Многія важныя асаблівасці сучаснага імперыялізму тлумачацца тым, што ён вымушан прыстасоўвацца да новых умоў, да ўмоў барацьбы дзвюх сістэм.

Перш за ўсё мы не можам не ўлічваць, што імперыялізм нашых дзён усё яшчэ мае магутны, высокаарганізаваны вытворчы механізм. Мы не можам не ўлічваць, што сучасны імперыялізм выкарыстоўвае і тыя магчымасці, якія дае яму ўсё большае зрошчванне манаполій з дзяржаўным апаратам. Усё шырэй распаўсюджваюцца праграмаванне і прагназаванне вытворчасці, дзяржаўнае фінансаванне тэхнічнага прагрэсу і навуковых даследаванняў, меры, накіраваныя на пэўнае абмежаванне рыначнай стыхіі ў інтарэсах буйнейшых манаполій. У радзе краін гэта прыводзіць да пэўнага павышэння эфектыўнасці грамадскай вытворчасці.

Эканамічныя і навукова-тэхнічныя поспехі сацыялістычных краін, класавая барацьба прымушаюць капітал ісці і на пэўныя ўступкі працоўным у сацыяльнай сферы. Ён імкнецца замаскіраваць растучае павелічэнне ступені іх эксплуатацыі. Такім шляхам манапалістычны капіталізм спрабуе прадухіляць найбольш небяспечныя для буржуазнага ладу сацыяльна-эканамічныя ўзрушэнні.

Імкнучыся адказаць на выклік сацыялізма, умацаваць свае пазіцыі, імперыялісты аб'ядноўваюць свае намаганні ў міжнародным маштабе, звяртаюцца да розных форм эканамічнай інтэграцыі. Пры падтрымцы і ўдзеле з боку буржуазных урадаў ствараюцца міжнародныя аб'яднанні манаполій. Актывізуюць сваю дзейнасць імперыялістычныя ваенна-палітычныя саюзы.

Зразумела, і цяпер, нягледзячы на ўсё гэта, невыкараняльныя міжімперыялістычныя супярэчнасці застаюцца важнай заканамернасцю капіталістычнага грамадства. Новую вастрыню гэтым супярэчнасцям надае тая акалічнасць, што ў нашы дні ўзмацняецца ўзаемапранікненне капіталаў гэтых краін, расце ўзаемазалежнасць іх нацыянальных гаспадарак. Рост супярэчнасцей паміж імперыялістычнымі дзяржавамі знаходзіць сваё выражэнне, у прыватнасці, у разладжванні агрэсіўных ваенных блокаў, перш за ўсё — НАТО.

Аднак у цэлым сёння, ва ўмовах агульнага крызісу капіталізму, які паглыбляецца, адбываецца пэўнае перамяшчэнне цэнтра цяжару стратэгіі імперыялізму на сусветнай арэне. Палітыка імперыялізму ўсё ў большай ступені вызначаецца класавымі мэтамі агульнай барацьбы супраць сусветнага сацыялізма, нацыянальна-вызваленчых рэвалюцый і рабочага руху.

Няма сумнення, што імперыялізм і надалей будзе імкнуцца знайсці новыя магчымасці, каб прадоўжыць сваё існаванне. Усё гэта мы не можам не ўлічваць у сваёй палітыцы.

Аднак, гаворачы аб гэтых баках сучаснага імперыялізму, не прымяншаючы сілу і магчымасці праціўніка, мы разам з тым лічым, што іх не трэба і перавялічваць. Менавіта ў наш час усё вастрэй выступаюць глыбокія, сапраўды непераадольныя ўнутраныя супярэчнасці, якія падточваюць капіталізм, і перш за ўсё — супярэчнасці паміж працай і капіталам. Пад напорам сіл сацыялізма і дэмакратыі працягваецца аслабленне яго сусветных пазіцый. Сёння паўней, чым калі-небудзь, ён раскрывае сябе як лад сацыяльнай і нацыянальнай няроўнасці, прыгнёту і насілля.

Дзяржаўна-манапалістычны капіталізм, гіганцкі абагульняючы вытворчасць, цэнтралізуючы кіраванне ёю, да крайнасці паглыбляе асноўную супярэчнасць буржуазнага ладу — супярэчнасць паміж грамадскім характарам вытворчасці і прыватным спосабам прысваення. Усё больш відавочнай для народаў становіцца ненатуральнасць становішча, пры якім вытворчыя комплексы, якія абслугоўваюць часам не адну краіну, застаюцца прыватнай уласнасцю кучкі мільянераў і мільярдэраў. Неабходнасць замены капіталістычных вытворчых адносін сацыялістычнымі становіцца ўсё больш настойлівай.

Чым далей імперыялізм заходзіць у сваіх спробах прыстасавацца да абстаноўкі, тым глыбейшымі становяцца яго ўнутраныя сацыяльна-эканамічныя антаганізмы. Развіццё капіталістычнай эканомікі адзначана перыядычнымі спадамі. Узмацняецца нераўнамернасць і аднабокасць развіцця асобных краін. Усё гэта не можа не параджаць сур'ёзных цяжкасцей унутры гэтых краін і росту супярэчнасцей паміж імі. Сведчанне таму — пастаянны бюджэтны дэфіцыт, вастрэйшыя ўспышкі валютна-фінансавых крызісаў, дарагавізна і інфляцыя, якія сталі ў шасцідзесятыя гады хранічнай хваробай многіх капіталістычных краін. Гэту хваробу нярэдка называюць цяпер «паўзучым крызісам».

На фоне небывалых магчымасцей, якія адкрывае сучаснае развіццё навукі і тэхнікі, асабліва ярка выступае няздольнасць імперыялізму пазбавіць грамадства ад беднасці і галечы, ліквідаваць беспрацоўе, забяспечыць працоўным і дробным уласнікам жыццё, свабоднае ад страху за заўтрашні дзень. Для ўсё большай колькасці людзей становіцца зразумелым, што капітал не можа і ніколі не дапусціць рэальнага ўдзелу працоўных у вырашэнні вытворчых і грамадскіх спраў. Усё больш відавочна становіцца, што імперыялізм вядзе да найглыбейшага заняпаду культурных і маральных каштоўнасцей грамадства.

Узрослыя магчымасці вытворчасці, навукі і тэхнікі манаполіі выкарыстоўваюць у сваіх эгаістычных мэтах — для ўзмацнення эксплуатацыі мас, умацавання апарату насілля над імі, машыны ваеннай агрэсіі і авантур. Сацыяльная бездань паміж манапалістычнай вярхушкай і велізарнымі масамі рабочага класа, усіх працоўных працягвае паглыбляцца. Іншымі словамі, імперыялістычны лад — гэта пастаянная і невыкараняльная пагроза для ўмоў жыцця і самога існавання найшырэйшых народных мас у краінах капіталу, дзе ўсё часцей узнікаюць найвастрэйшыя класавыя канфлікты.

Велізарная небяспека для народаў заключана і ва ўласцівай імперыялізму тэндэнцыі да ліквідацыі дэмакратычных свабод, да фашызацыі грамадска-палітычнага жыцця. Яшчэ У. І. Ленін падкрэсліваў, што імперыялізму ўласціва рэакцыя па ўсёй лініі. У шасцідзесятыя гады з'явілася шмат новых пераканаўчых доказаў гэтага.

У найбольш развітых капіталістычных краінах хутка расце ўплыў так званага ваенна-прамысловага комплексу, г. зн. саюза буйнейшых манаполій з ваеншчынай у дзяржаўным апараце. Гэты злавесны саюз аказвае ўзрастаючы ўплыў на палітыку многіх імперыялістычных дзяржаў, робіць яе яшчэ больш рэакцыйнай і агрэсіўнай.

Там, дзе эксплуататары аказваюцца не ў стане забяспечыць патрэбны ім «парадак» у рамках буржуазнай дэмакратыі, улада перадаецца ў рукі адкрыта тэрарыстычных рэжымаў фашысцкага толку. Прыкладаў таму ў наш час нямала. Гэтыя рэжымы карыстаюцца фінансавай і палітычнай падтрымкай з боку правячых колаў імперыялістычных дзяржаў і буйнейшых манаполій.

Імперыялізм з'яўляецца сёння найвялікшай пагрозай і для свабоды і незалежнасці народаў былых калоній. І цяпер, пасля крушэння асноўных устояў каланіяльнай сістэмы імперыялізму, неад'емнай яго рысай працягвае заставацца аграбленне прыродных багаццяў і эксплуатацыя працы насельніцтва больш слабых і менш развітых краін, хоць імперыялісты і

(Працяг на 2-й стар.).

